# НАВІНКІ

15 - 22 лістапада 2002 №25(74) Кошт свабодны






# БЕЛАРУСЬ — кандыдат у «вось зла»

## Ці чакаць нам амэрыканскіх бамбардзіровак?

У Вашынгтоне праходзіць міжнародная канфэрэнцыя пад правакуючай назвай «Вось зла: Беларусь – зьвяно, якога не стае». Нашую краіну на ёй прадстаўляюць знаёмыя твары: Лябедзька, Вячорка, Шушкевіч і Саньнікаў. Анатоль Лябедзька даўно знаходзіцца на ўліку спэцслужбаў, як празаходні агент. Пасьля канфэрэнцыі ў чорны сьпіс КДБ за антыдзяржаўную дзейнасьць могуць патрапіць і многія іншыя гора-апазыцыянэры. Новыя шпіёнскія жарсьці не за гарамі.

## «Не хадзіў бы ты, сынок, у салдаты»



Злачыннасьць у войску: прычыны і сучасныя мэтады барацьбы.
Стар.3

## Джэнтэльмэны газападачы



Расейска-беларускі газавы скандал набірае абароты.
СТАР.4-5

## *Кіно і немцы: падзеі, факты, камэнтары на Стар. 6*

## ЭНЭРДЖАЙЗЭР




Энэргетычны комікс на стар.8

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 15.11.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №299

## УЛЬТЫМАТУМ

# ДЖЭНТЭЛЬМЭНЫ




**«Тема нашего сегодняшнего совещания: о готовности народного хозяйства к функционированию в зимний период и обеспечение страны энергоресурсами, потребление их населением».**

Мяркуючы па рэакцыі Расеі, ультыматум беларускага Чынгісхана, агучаны 6 лістапада, зрабіў ацьвераджальнае ўзьдзеяньне на Крэмль. Нагадаем, што ўвесь сыр-бор разгарэўся з-за разьлікаў за расейскі газ. На лістапад Беларусь атрымала ад «Газпраму» газ за ўвесь 2002 г – 10,2 млрд кубамэтраў. Як сьцьвярджае расейскі бок, гэтак было дамоўлена ў кантрактах. Беларускі бок лічыць, што Масква вінна газу яшчэ больш і па тых самых цэнах. Па цэнах, па якіх «Газпрам» прадае газ у Смаленскую вобласьць, то бок па $24, расейцам прадаваць проста нявыгадна. Таму з 1 лістапада «Газпрам» скараціў падачу газу напалову. У Беларусі, якая зараз практычна цалкам тырчыць на расейскай газавай ігле, гэта выклікала эфэкт ломкі. Нарэшце з Карламаркса-38 пайшлі заявы аб палітычным уціску. Лукашэнка заявіў, што газпрамаўская накрутка – «палітычнае рашэньне Крамля і беспрэцэдэнтны ціск на Беларусь» і тэрмінова прыняў меры. Бацьку нібыта падманілі: замест палымянага інтэгратара мы ўбачылі пасьлядоўнага незалежніка.

У сваёй бунтарскай прамове ад 6 лістапада прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь фактычна палохаў усходняга суседа нямінучым разрывам са старой палітыкай беларускага ўраду, накіраванай на хаўрусьніцтва з Расеяй узамен за ільготныя пастаўкі газу і сыравіны. Беларускі лідэр паабяцаў, што за транзыт газу па тэрыторыі Беларусі Расея будзе плаціць таксама па сусьветных коштах, якія ў 5-6 разоў вышэй за тое, што бярэ Беларусь, а таксама прад'явіць рахункі за паслугі, якія аказвае Беларусь Расеі «у абароне ейных інтарэсаў на заходніх рубяжах». Лукашэнка даў загад на працягу будучага году разьлічыцца з Расеяй за газ па сусьветных тарыфах і знайсьці альтэрнатыўных імпарцёраў газу. А каштаваць гэта будзе баларусам усяго якіх мільёнаў 150-200 даляраў. Хіба гэта грошы для вялікай краіны? Калі Расея ня хоча выконваць дамоўленасьці, сказаў беларускі прэзыдэнт, то за транзыт хай башляе таксама па сусьветных цэнах. У тым, што датычыцца ўзаемавыгадных разьлікаў, дадзеныя абодвух бакоў адрозьніваюцца на суму парадку 100 млн. баксаў. Па расейскіх рахунках [illegible] Беларусі – $282 млн., па Лукашэнкаўскіх – $190, але ў дэбеце Беларусі ільготы, якія былі дадзеныя «Газпраму» пры будаўніцтве газаправоду «Ямал-Заходняя Эўропа» на суму $175 млн. Для Лукашэнкі гэтыя сумы «практычна роўныя і Беларусь нікому нічога ня вінная». І хай Расея не задупаецца.

Сьмелыя і катэгарычныя выказваньні галавы Беларусі як заўсёды накіраваныя найперш на стварэньне псыхалягічнага эфэкту і паказваюць перадусім, што Беларусь эканамічна не была падрыхтаваная да такога павароту падзеяў. Да нядаўняга часу нават па смаленскіх коштах рэспубліка плаціла ня столькі жывымі грашыма (доля грошавых разьлікаў у гэтым годзе на перабольшыла 12%), колькі таварамі, браць якія расейцаў абавязвалі хутчэй палітычныя, чым




**«Вопрос, конечно, эмоциональный. В годы Великой Отечественной войны по одну сторону баррикад в окопах мы гнили вместе с россиянами, а не с немцами и представителями других наций. И наверное те, против кого сегодня так борется руководство России, собираются на свои шабаши не в Беларуси. И об экстрадиции отдельных террористов к нам Россия претензий не предъявляла».**




**«Старые долги в течение будущего года вернуть. Если Россия потребует не 200, а 300 миллионов долларов - отдайте им 300 миллионов. Они бедные сегодня. Они нищие при такой цене на газ и нефть. Даже в советские времена таких доходов не имели, это дикие доходы. И они нищие и бедные - отдайте им».**




**«Но при этом я хочу, чтобы Правительство, губернаторы, вся вертикаль власти, руководители предприятий твердо знали: с завтрашнего дня мы вводим жесточайший режим экономии. Суть одна – необходимы тебе энергоресурсы, нужен природный газ – взял, заплати. Нечем платить – не бери. Мы обеспечим 100-процентную потребность энергоресурсов, но под полную оплату».**




**«Не берите больше у них долгов, попросите лучше у арабских государств, у Запада, у Америки – они помогут нам, не глядя ни на какие наши отношения. Категорически запрещаю вести разговоры с Российской Федерацией о заимствованиях. Ничего не одалживайте у них».**

## УЛЬТЫМАТУМ

# ГАЗАПАДАЧЫ



эканамічныя меркаваньні. Нават не палітычныя рахункі, а нейкія этычныя імпэратывы, якія зусім не ўваходзяць у набор сучаснай макраэканомікі, што відавочна была напісаная дзяльцамі наркабізнэсу. Галоўны эканамічны прынцып заключаецца ў тым, каб падсадзіць кліента на драйв, і як толькі той дасьпее, паволі (ці непаволі) накручваць кошт.

Між тым можна было б пазьбегнуць такой недальнабачнай падсадкі на расейскую газавую ханку і загадзя падумаць пра магчымыя будучыя праблемы з эканамічным здароўем краіны.

За мінулае дзесяцігодзьдзе большасьць беларускіх ЦЭЦ былі пераведзеныя на газавае паліва, у чым былі відавочна свае важкія прычыны – газ ня трэба складзіраваць, тэхналёгія паленьня газу практычна безадкідная і гэта нашмат больш экалягічнае рэчыва, чым мазут ці вугаль. Пакідаць нейкія іншыя тэхналёгіі разьлічаныя на розныя віды паліва, на сёньня беспэрспэктыўна – затраты на ачыстку і транспарціроўку нафтапрадуктаў ці вугля перавысілі б эфэкт ад розьніцы ў цане. Спэцыяльная камісія, якая вывучала лёс беларускай энэргетыкі, і альтэрнатыўныя віды паліва, прыйшла да высновы, што да 2030 года атамная энэргія краіне не патрэбная, а значна менш расходаў будзе калі актыўна выкарыстоўваць наяўныя рэсурсы – біягаз, адпады і нават энэргію ветру. Камісія чамусьці палічыла пэрспэктыўным і выкарыстаньне гаручых сланцаў, жыткавіцкага бурага вугля. Разглядалася нават і пэрспэктыва вяртаньня да тарфянога паліва.

Есьць шмат эканамічных спосабаў рашэньня эканамічнай праблемы, але час для іх, можна сказаць, крыху мінуў, таму бацька пасьпяшаўся занесьці яе ў разрад палітычных. Для таго, вядома ж, каб вырашаць яе па-ранейшаму палітычнымі мэтадамі, а не эканамічнымі. Як бы прывабна ні выглядалі апазыцыйным эканамістам «сланцы», на якіх нібыта працуюць балтыйскія электрастанцыі, башляць за расейскі газ усё роўна эканамічна выгодней.

У сваім пальмяным ультыматуму беларускі прэзыдэнт прызнаўся, што рабіў нешта ня тое ў дачыненьнях з Расеяй, і трэба было праводзіць такую ж палітыку, якую праводзіў Кучма: «заігрываць з Расеяй, адной і другой нагой уступіць у Эўрасаюз і NATO...» То бок заляцаньні да Расеі дзьвюма нагамі не далі чаканага выніку. Цяпер Лукашэнка будзе адной нагой уступаць у Эўразьвяз і НАТА, а другой – праводзіць новую эканамічную палітыку з Масквой. Такая новая палітыка – нармальны шантаж, годны сапраўднага джэнтэльмэна ўдачы: Лукашэнка прыгразіў заплаціць за газ грашыма, якія возьме з чарнобыльскіх аб'ектаў і пэнсіяў расейскім вайскоўцам, якія нечакана апынуліся ў якасьці заложнікаў накшталт тых аматараў апэрэты «Норд-Ост» – яны ўрэшце і атрымалі свой газ, які, як кажуць сам Пуцін выбіраў.

Тым ня менш фішка пракатала і канфлікт пакуль урэгуляваны. Вынік палымянай прамовы прэзыдэнта – зьніжэньне газпрамаўскай накруткі з 50 баксаў да 40. Ці доўга ячшэ падобны спосаб эканоміі энэргарэсурсаў будзе даваць такі эфэкт? У даваршэньне хэпі-энду страшнай зімовай казкі пра газ на двары пацяплела, а чэхі пачалі круціць зь візамі для беларускай дэлегацыі на натаўскі саміт у Празе, так што заляцацца да паўночнаатлянтычнага саюзу яшчэ як бы рана, пакуль яшчэ працуе газаправод. Такім чынам, па цэнах на газ мы ўжо на 15 даляраў не Смаленск, але на дзесятку ўсё яшчэ не Эўропа, але хто аб гэтым зараз будзе шкадаваць? ●




«Еще раз хочу подчеркнуть. Может, мы и 3 процента от экономики России, может 5, никто этого не считал. Может, мы намного меньше, чем Россия. Но здесь живет гордый и независимый народ, который не позволит никому пинать себя ногами ни с Запада, ни с Востока».




«Белорусы без тепла не останутся никогда, как бы и с кем бы ни складывались наши отношения. В наших домах, в наших семьях зимой будет тепло и уютно, как в прежние годы».




«И самое главное. Немедленно проработать имеющиеся варианты по альтернативным поставкам энергоресурсов в Беларусь. Мы не можем дальше терпеть такую зависимость и унижение от одного государства».




«Но если нас руководство России хочет подтолкнуть к противостоянию с российским обществом и русскими людьми, то там, в Кремле, кто-то глубоко заблуждается. Умирать будем, но против русского человека в Беларуси никто руку не поднимет, это – наши люди».




«Мы возьмем эти деньги у людей, которые гнили с россиянами в окопах в годы Великой Отечественной войны, у тех двухсот тысяч военных, которые остались в Беларуси после распада СССР, в основном русских людей, заберем эти деньги со строительства чернобыльских объектов, в частности Республиканского диспансера радиационной медицины в Гомеле, районной больницы в Костюковичах, которая возводится для спасения людей».

# 8-Я ПАЛАСА

# ЭНЭРДЖАЙЗЭР























































